ПАСЬЛЯ КАНФІСКАТЫ.

Год VII. Красавік № 5 (78).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1935 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны —Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 5:



**ГРАМАДЗЯНЕ! У м-цы красавіку сёлета ўстрымана высылка „Шляху Моладзі" за неаплату падпіскі для 135 асобаў. Чыстка аднак ня скончана, бо яшчэ шмат хто з тых, што атрымаюць гэты нумар не аплаціў належна падпіскі. Ня ўстрымліваем ім пакульшто высылкі часапісу, бо спадзяёмся, што яны не захочуць быць нам у даўгу і ўсё як трэба аплацяць. Калі-ж гэта ня станяцца дык і ім высылка часапісу будзе ў хуткім часе ўстрымана!**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

### Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — І, і. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы 50 гр., на паўгода — 1 зл. на год — 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—2

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VII. | Вільня, Красавік 1935 г. | № 4 (77). |
| --- | --- | --- |

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!..

„Хрыстос ўваскрос“...
Гэту песьню панёс
На хвалях сваіх звон...
Рвануў ён сэрца мне,
Дрыжаць там струны аж на дне,
Як песьню звон нясе
„Хрыстос ўваскрос“...
— — — — — — — —
Былі і сярод гора
Хвілінкі шчасьця у мяне,
Хаця й прайшлі так скора,
О, непадобныя, — о, не, —
Да тых, што звон нясе:
„Хрыстос ўваскрос“...
— — — — — — — —
І ў гэты дзень той звон
Таўпе ён сэрца рвець,
Як песьню ўдаль нясець.
Таўпы імя ...мільён...
Які-ж, пытаю, чарадзей
Усіх бяз розьніцы людзей —
І бедных і багатых,
Ў палацах і па хатах,
Так зьліў-бы сэрцы ў адзін тон,
Як ў гэты дзень той звон?..

Я. Быліна.



# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.

## IX. Сусьветная вайна, Вялікая Расейская Рэвалюцыя і справа нацыянальна-палітычнага вызваленьня Беларусі.

### § 1. Прынцып нацыянальнасьці агулам.

Ужо з папярэдніх разьдзелаў гэтай працы бачылі мы, як у Эўропе, пачынаючы яшчэ з канца XVIII ст., тварылася, паўставала і разьвівалася паняцьце нацыянальнасьці, як яно ўгрунтоўвалася ў псыхіцы розных народаў і панукала іх да вольнага і незалежнага жыцьця.

Дзякуючы гэтаму паняцьцю нацыянальнасьці, не гаворачы ўжо аб іншых народах, наступіла аб'яднаньне Італіі, Нямеччыны, Паўстаньне Бэльгіі і дзяржаў Балканскіх.

Гэтае паняцьце нацыянальнасьці, як бачылі мы вышэй, дакацілася і да Беларусі і тут так-жа, дзякуючы прадусім Фр. Багушэвічу, лягло ў аснову адраджэньня беларускага народу.

Галоўнай-жа прычынай далейшага разьвіцьця прынцыпу нацыянальнасьці і далейшага яго ўваходу ў аснову жыцьця розных народаў і нават у аснову адносінаў міжнародных— была Вялікая Сусьветная Вайна і пазьней Вялікая Расейская Рэвалюцыя.

Ужо падчас вайны ў грамадзкай думцы Эўропы было дасьпелым праканаiньне, што па сканчэньню гэтай міжнароднай бойні палітычная мапа Эўропы павінна быць зьменена згодна з нацыянальнымі імкненьнямі народаў. Гэткая думка так была популярнай, што старыя дыплёматы імпэрыялістычных дзяржаў, падпісваючы трактаты супярэчныя з гэтай думкай, падпісвалі іх тайна.

Абедзьве ваюючыя староны так-жа ўжо выразна рабілі прырачэньні, ідучыя па лініі прынцыпу нацыянальнасьці. І так, дзяржавы цэнтральныя на чале з Нямеччынай абяцялі вызваленьне Польшчы, а так-жа Літве, Украіне, часткова нават Беларусі і народам надбалтыцкім. Значна выразьней і шырэй карысталіся прынцыпам нацыянальнасьці дыплёматы і палітыкі другой ваюючай стараны — коаліцыі.

Асабліва-ж дзейна і ўпорыста падчас вайны пашыралі прынцып нацыянальнасьці прадстаўнікі народаў паднявольных. Так напр. 26 і 27.VI.1914 г. у Парыжы адбылася конфэрэнцыя паднявольных народаў Эўропы. Конфэрэнцыя гэта 12.XI абвесьціла сваю дэклярацыю, падставай якой было права народаў на палітычную незалежнасьць.

Апрача гэтай конфэрэнцыі працавала над пытаньнем нацыянальным і іншая конфэрэнцыя, у Газе, ад 7 да 10.IV.1915, якая дамагалася, каб граніцы будучых дзяржаў праводзіліся згодна з воляй народаў.

Адбываўся цэлы рад і іншых розных міжнародных нарадаў, а так-жа было нямала выступленьняў паасобных розных выдатных палітыкаў, якія выказваліся за тое, каб па вайне народы маглі самі быць тварцамі сваей долі на аснове сваей нацыянальнасьці.

Але асаблівай жывасьці і размаху набірае прынцып нацыянальнасьці ў канцы 1916 г., калі цэнтральныя дзяржавы першыя выступілі з ініцыятывай аб замірэньні. Гэтая ініцыятыва выклікала цэлы рад розных заяваў характару міжнароднага ў сэнсе абароны прынцыпу нацыянальнасьці. Найбольш галосным было выступленьне 21.XII.1916 г. прэзыдэнта Злуч. Станаў Амэрыкі, слаўнага Вільсона, які за падставу да перагавораў аб міры запрапанаваў прынцып забясьпечаньня права і вольнасьці малых і паднявольных народаў, забясьпечаньня іх ад несправядлівасьці і гвалтаў. У гэтым-жа сваім выступленьні той-жа Вільсон запрапанаваў стварэньне Лігі Народаў.

Найбольшым ворагам прынцыпу нацыянальнасьці ў дзяржаў коаліцыйных была царская Расея, якая, маючы добрую палавіну насельніцтва не расейскага, прынцыпу нацыянальнасьці дужа баялася. Але рэвалюцыя ў лютым 1917 г. і тут прынесла ў гэтай справе вялікае аблягчэньне. Ужо нават Тымчасовы Урад 17.III заявіў коаліцыі, што Расея здэцыдаваная кіравацца асновамі дэмократызму і забясьпечаньня правоў усіх народаў.

Справа з гэтым яшчэ — тэорэтычна прынамсі — палепшыла, калі ў лістападзе таго-ж 1917 г. выбухла рэвалюцыя бальшавіцкая. Камуністычная ўлада ў асобе Рады Народных Камісараў абвесьціла роўнасьць і незалежнасьць усіх народаў быўшай царскай Расеі, прызнаючы ім права свабоднага самаазначэньня і магчымасьці аддзяленьня ад Расеі і стварэньня сваіх незалежных дзяржаў.

Міжнародная нарада ў Берасьці, што трывала з перарывамі ад 3.XII.1917 да 4.III.1918 г., у якой прымалі ўчасьце з аднаго боку дзяржавы цэнтральныя, разам з прадстаўнікамі Украіны, а з другога бальшавікі, — так-жа за галоўную падставу замірэньня прызнавала права на нацыянальнае самаазначэньне народаў.

Бальшавікі, як ведама, у Берасьці з цэнтральнымі дзяржавамі і з Украінцамі сьпярша не дагаварыліся да нічога. Тады цэнтральныя дзяржавы 9.II.18 г. падпісалі дагавор з Украінай.

Пасьля гэтага, старшыня бальшавіцкай дэлегацыі Л. Троцкі, напісаўшы на сьцяне конфэрэнцыйнай залі ведамы кліч: „ни мира, ни войны“ — разам з сваімі дэлегатамі Берасьць пакінуў. Нямецкая армія пачала займаць беларускія й украінскія землі, паложаныя на ўсход ад старой баявой нямецка-расейскай лініі. Урэшце бальшавіцкая дэлегацыя

вярнулася ў Берасьце ўзноў — ужо бяз Троцкага—і 4.III.18 г. падпісала з цэнтральнымі дзяржавамі мір.

Дагавор між цэнтр. дзяржавамі і Украінай у Берасьці вызначыў граніцу Украіны, якой прызнана была і часьць беларускіх зямель. Аднак у дагаворы ёсьць даданы пункт, які заяўляе, што „граніцы аканчальна і падробна будуць усталены мяшанай камісіяй згодна з варункамі этнографічнымі і з воляй насельніцтва". У гэтым, ясная рэч, была дана магчымасьць усталіць у будучыні справядлівую граніцу між іншым і украінска-беларускую,згодна з прынцыпам нацыянальнасьці.

Урэшце 11.XI.1918 г. наступіла спыненьне барацьбы між дзяржавамі цэнтральнымі і коаліцыяй. На ўступных перагаворах прынцып нацыянальнасьці прызнала вялізарная большасьць міжнародных прадстаўнікоў як з аднаго, так і з другога боку. 28.VI.1919 г. быў падпісаны Вэрсальскі Трактат, які і ўстанавіў сучасны палітычны лад Эўропы.

Праўда, трактат гэты, які ў тэорыі быў будаваны на прынцыпе нацыянальнасьці, у практыцы шмат у чым аказаўся з гэтым прынцыпам нязгодным. Ня ўвёў ён у жыцьцё ў поўнасьці права самаазначэньня народаў, не стварыў законаў, якія належна баранілі-б правы народаў, правёў граніцы дзяржаў, якія парэзалі жывыя народныя арганізмы і ўрэшце замест Лігі Народаў, як гэта праектаваў Вялікі Вільсон, стварыў фактычна лігу дзяржаў.

Але ўсёждыкі, ня гледзячы на гэта ўсё, з Сусьветнай вайны прынцып нацыянальнасьці скарыстаў нямала. Паўсталі многія народы, у міжнароднае права ўведзены пункты, якія маюць на ўвазе абарону нацыянальнага прынцыпу, як правы нацыянальных меншасьцяў, як правы опцыі, правы плебісцыту і г. д.

Праўда, забыліся і бальшавікі аб праве самаазначэньня народаў, аб іх вольнасьці і магчымасьці тварыць свае нацыянальныя незалежныя дзяржавы і павялі нават барацьбу проціў самага прынцыпу нацыянальнасьці, але, ня гледзячы на гэта, прынцып нацыянальнасьці скарыстаў і карыстае так-жа нямала і з бальшавіцкай палітыкі. Сьпярша ўрачыстае прызнаваньне правоў народам і спробы будаваньня бальшавіцкіх дзяржаў розных народаў быўшай Расеі, а пасьля прасьлед нацыянальнага элемэнту ў гэтым усім і ўводжаньне ўрэшце догматычнага комунізму ў палітычнае і культурнае жыцьцё народаў у форме ўсёждыкі нацыянальнай, бо ў роднай, хоць на бальшавіцкі лад „напраўленай", мове народаў — усё гэта разам непахібна вяло і вядзе далей да большага разьвіцьця і ўгрунтаваньня ў псыхіцы народаў СССР нацыянальнага прынцыпу.

Словам, вайна і рэвалюцыя выгадавалі прынцып нацыянальнасьці, прынамсі сярод народаў быўшае Расеі, а ў іх ліку і ў народзе беларускім, да разьмераў прад тым нязнаных.

Я. Н.

# Агульны гадавы сход Рады БІГіК і беларуская культурная праца на вёсцы.

31-га сакавіка сёлета ў Вільні пад кіраўніцтвам адв. М. Шкялёнка адбыўся агульны гадавы сход Рады Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, на якім уступаючы Цэнтральны Урад Інстытуту здаў справаздачу з свае дзейнасьці за 1934 год, выбраны новыя ўлады Інстытуту і апрацаваны плян працы на будучыню.

Справаздачу здаў старшыня Цэнтр. Ураду Кс. В. Гадлеўскі, з якой перадусім відаць, што Інстытут у 1934 году у сваей працы меў вельмі многа розных перашкодаў. Асабліва балюча Інстытут адчуў ліквідацыю адміністрацыйнымі ўладамі гурткоў у Крыніцы, Радашкавічах і Дуброве, Маладэчанскага пав., у Мур. Ашмянцы, Ашмянскага пав., і Новай Мышы, Баранавіцкага пав., а так-жа адмову тых-жа ўладаў легалізаваць новыя гурткі Інстытуту ў Анісімавічах, Баранавіцкага пав., у Палікшах, Маладэчанскага пав., і ў Дэлятычах, Мондзіне і Вярашычах, Навагрудзкага пав. З прычыны такіх адносінаў польскіх адміністрацыйных уладаў да Інстытуту, у 1934 г. ня змог паўстаць аніводзін новы гурток Інстытуту.

Ня гледзячы на ўсе перашкоды, Інстытут працаваў інтэнсыўна, як у цэнтры — выдаючы беларускія кніжкі і часапіс „Калосьсе,“ арганізуючы музэй і інш., так і на вёсцы, дзе былі ладжаны спэктаклі, лекцыі, таварыскія вечары і распаўсюджвалася беларускае друкаванае слова, за што сход Рады Інстытуту, прыймаючы да ведама справаздачу з дзейнасьці, выразіў Цэнтральнаму Ураду падзяку.

Пасьля былі выбраны: новы Цэнтр. Урад Інстытуту ў складзе: Кс. В. Гадлеўскі — старшыня, інж. Л. Дубейкаўскі і адв. М. Шкялёнак — віцэ-старшыні, інж. А. Клімовіч — скарбнік, Ул. Казлоўскі—сакрэтар, абс. М. Пяцюкевіч і В. Войтанка — сябры ўраду, мгр. Я. Шутовіч і абс. Я. Малецкі — заступнікі, і Рэвізыйная Камісія ў якую ўвайшлі: Кс. А. Станкевіч, рэд. Я. Пазьняк і Я. Найдзюк.

У пляне працы Інстытуту на будучыню, побач з выдавецкай і навуковай працай у цэнтры, асабліва зьвернута ўвага на культурную працу на вёсцы, якая мае праяўляцца ў закладаньні і вядзеньні гурткамі бібліятэкаў-чытальняў, у ладжаньні лекцыяў (рэфэратаў) з галіны літаратуры, гісторыі, географіі, а так-жа гаспадаркі і інш., у арганізаваньні новых гурткоў Інстытуту і адведваньні іх людзьмі з цэнтру.

Пэўне-ж, і гэта праца напаткае на розныя перашкоды з розных бакоў, але з імі пастаноўлена рашуча змагацца,

а ў справе дасюлешніх адносінаў адміністрацыйных уладаў пастаноўлена падаць мэмор'ял цэнтральным польскім уладам.

Апроч гэтых, яшчэ многа розных важных спраў было абгаворваных Радай, аб якіх, дзеля агранічэньня месца, ня будзем тут пісаць, а вернемся да справы культурнае працы на вёсцы, якая, думаем, перадусім цікавіць нашых чытачоў і на якую мы асабліва зьвяртаем увагу.

Вось-жа, як ужо было сказана, Інстытут мае заняцца ладжаньнем лекцыяў на вёсцы. Дзеля таго аднак, што ня ўсюды і не заўсёды можна даехаць лектарам, Цэнтраля Інстытуту будзе рассылаць па гуртках гатовыя, апрацаваныя рэфэраты, якія будуць магчы чытаць на сваіх сабраньнях сябры гуртка. З гэтых гатовых рэфэратаў павінна скарыстаць і тая беларуская вясковая моладзь і старэйшае грамадзянства, якія ня маюць магчымасьці залажыць у сябе гуртка Інстытуту, выпісваючы супольна з Цэнтралі Інстытуту гэныя рэфэраты і чытаючы іх на супольных зборках вечарамі ці сьвятам. Чытаць такія рэфэраты можна будзе ў крузе сваіх знаёмых бяз ніякіх дазволаў і паведамляньняў адміністрацыйных уладаў (паліцыі), бо гэтыя рэфэраты будуць у хворме цэнзураваных у Вільні, легальных друкаў.

Думаем, што кожны беларус, асабліва-ж беларускія вясковыя дзеячы, якія сапраўды дбаюць аб палепшаньні долі беларускага народу, аб яго ўсьведамленьні і культуры, навяжуць з Цэнтраляй Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры (Вільня, Завальная 1) лучнасьць і будуць паступова і сыстэматычна супольна працаваць для адраджэньня Беларусі!

---

* * *

Гадую песьні без адрыву.
Нашу ў грудзёх прыгожасьць слоў
Яшчэ нявылітых у рымы,
Але хвалюючых мне кроў.
Блуджу ў нарысах новых плянаў,
Ляплю скляпеньне новых тэм.
І упіваюся да п'яна
Агнём няўспыхнуўшых паэм.

Адно простое часам слова,
Як дзіцянё гатоў пясьціць,
За тое, што паможыць новы
Абраз яскрава ухапіць.

І іскры шчырага натхненьня
Лаўлю ў браджэньню палкіх дум.
І нашу радасьць — Адраджэньня
У звонкі плаўлю веснашум.

**М. Машара.**

---

Klim Jałaviec.

# Krajeznaŭstva i moładź.

Nia pieršy raz na bačynach „Šlachu Moładzi“ i inšych biełaruskich hazetaŭ padyjmajecca krajeznaŭčaje pytańnie. Ja chacieŭ-by tolki skazać, što naša moładź, jakaja pachodzić abo žyvie na pravincyi, u vioscy — mahła-b dyj pavinna zrabić u hetaj halinie šmat.

Usie my vyhadavanyja pad sałamianymi strechami biełaruskaj vioski znajem šmat prykazak, kazak, pieśniaŭ, apaviadańniaŭ źviazanych z historyjaj vioski, ci całaj vakolicy. Viedajem taksama, jakija zvyčai panujuć na viečarynach, chreśbinach, viasiellach, chaŭturoch i inšych siamiejnych, viaskovych ci vakoličnych uračystaściach. Isnujuć taksama peŭnyja zvyčai pry kupli i pradažy inventara, pry budoŭli domu. Znajem zvyčai śviatočnyja, dažynkovyja, posnyja, miasajednyja, pry rabocie zimovaj i letniaj.

Viedajem taksama ab vakoličnych uzhorkach, kamieńniach, ruinach, dzie staić dzierava za staroj kaplicaj, daroha — na jakoj „strašyć“, piaski—siarod jakich raśkidanyja ludzkija kości, a ŭ ziamli — harški, abo pryłady žaleznyja ci kamiennyja. Znajomyja nam apaviadańni ab tych miascoch, dzie byli ahramadnyja lasy, stajaŭ zamak, abo niejkaja śviatynia, dzie byli mohiłki, kurhan ci mahiła.

Usio heta rečy dobra nam viedamyja, a my navat nie dadumvajemsia, što heta vielmi darahi mataryjał dziela paznáńnia narodu i jaho kultury, dziela paznańnia našaj historyi, historyi našaj ziamli z prad tysiačy i bolš hadoŭ. Jość ludzi navuki, jakija pa raślinach, abo žmieni piasku paznajuć, što tam hłybiej moža być žaleznaja ruda, sol, abo nafta, — pa kuskoch cehły, aružža i manety skažuć nam, kolki viakoŭ prajšło z taho času, kali ŭ danym miescy stajaŭ abaronny zamak, abo całaje miesta. Hlinianyja čerapy, razmalavanyja časam pryhožymi kraskami, z popiełam ci niedapalenymi kaściami kažuć nam, što tysiaču, a moža i bolš hadoŭ nazad na hetym miescy byli pahanskija mohiłki, a hlinianyja čerapy — heta astatki urnaŭ, jakija służyli za damaviny palenym niabožčykam.

Staŭpy pa bałotach ci vaziorach pakazvajuć, što ŭ hetym miescy znachodzilisia chaty pieršabytnych ludziej, jakija budavali svaje siadziby na vadzie, kab takim čynam zabiaśpiečycca ad napadu dzikich źviaroŭ. Našyja narodnyja zvyčai paćviardžajuć, što ŭžo ŭ vielmi daŭnyja časy mieli my svaju kulturu, inšuju ad siańniašniaj, ale ŭłasnuju, nikim nie padkinutuju.

Šmat inšych cikavych rečaŭ možna daviedacca z pradmietaŭ i apaviadańniaŭ, jakija zdajucca nam biazvartasnymi, ale katoryja majuć začeńnie pieršaradnaj vahi. Vučonyja starajucca ŭsio heta sabrać, apisać i vyciahnuć z usiaho adpa-

viednuju karyść dla navuki; adnak časta plany ich byvajuć pakryžavanyja, dziakujučy niedavieru, abo najčaściej dziakujučy nieachajnaści i nieźviartańniu na hetyja pytańni hłybiejšaj uvahi z našaha boku, — pierad usim z boku biełaruskaj moładzi, jakaja maje pretensyi da intelihiencyi. Tamu ŭ nas hetaja sprava lažyć adłoham, materyjał prapadaje raz na zaŭsiody, bo staryja ludzi, jakija ŭmieli i pamiatvali šmat — pamirajuć, moda źmianiaje našyja zvyčai i vopratku, čas niščyć histaryčnyja pamiatki i budoŭli.

Dyk pierad usim moładź našaja, jakaja stała abo čosova prabyvaje na vioscy, pavinna zaniacca hetaj pracaj, zapisvajučy ŭsio, ab čym było ŭspomniena vyšej i što, pavodle asabistaha pierakanańnia, moža mieć vartaść dla navuki, — ratujučy takim čynam ad źništažeńnia staryja i darahija nam tvory. Što tolki mahčyma, treba pierasyłać ŭ Sekcyju Etnohrafii i Archeolohii pry Bieł. Instytucie Haspadarki i Kultury.

Zvyčai, pieśni, abrady i inšyja padobnyja rečy treba zapisvać prosta sa słoŭ raskazčyka, ničoha nie źmianiajučy, ničoha nie dadajučy, ani addymajučy: usio pavinna być u takoj formie, u jakoj isnavała pamiž narodu. Treba taksama dakładna aznačać miascovaść, z jakoj pachodzić danaja reč, hod i miesiac znachodki, a taksama svajo imia i proźvišča. Viadučy takuju pracu, moładź adyhrała-b rolu pasrednikaŭ, praca jakich mieła-b ahramadnaje značeńnie dla budučych pakaleńniaŭ.

Treba taksama hladzieć za tym, kab ludzi niaśviedamyja nia niščyli pamiatak, nia krali cehłaŭ sa starych budoŭlaŭ i zamkaŭ, nia bili vykapanych urnaŭ, nia psuli i nia ŭžyvali dziela svaich metaŭ znojdzienuju zbroju abo niejkija staryja pryłady.—Ale treba taksama pamiatavać i ab tym, što nia možna samavolna raskopyvać kurhanoŭ, mahiłaŭ, rabić na ŭłasnuju ruku dośledaŭ i šukańniaŭ u histaryčnych miascoch, bo zamiest navuki i pomačy, možna pryniaści tolki škodu. Ad hetaha jość specyjalisty, jakija mohuć pravodzić padobnyja pracy.

Dyk, zaklikaju jašče raz usiu našuju moładź da pracy krajeznaŭčaj na rodnych zahonach, bo hetaja praca źjaŭlajecca adnym z abaviazkaŭ našych u adnosinach da svajej baćkaŭščyny.

---

## НІЧОГА НЯ ТРЭБА.

Гляджу я і нудна і сумна
На могілкаў ціхі лясок —
Калісьці вясёласьцяй шумны
И прыгожы быў гэты куток.

Цяпер-жа—крыжы і каменьні...
Пад імі ляжаць у зямлі
Касьцей і шкялетаў трухленьне,
І гэта ўсё людзі былі.

Калісьці рабілі — пацелі
І кожны стараўся і дбаў,
Аб сьмерці і знаць не хацелі
І кожны багацьце зьбіраў.

Цяпер-жа—нічога ня трэба,
Даволі ім сажня зямлі,
Ня трэба ні грошай, ні хлеба—
Яны ўжо свой век аджылі.

Латвія.

**М. Шаўцоў.**

## Канфіската № 4(77) „Шл. Моладзі“.

25-га красавіка сёлета па загаду Віленскага Гарадзкога Старасты паліцыя сканфіскавала № 4 (77) за м-ц красавік „Шлях Моладзі“ за зьмяшчэньне артыкулу Альбэрта Стрыбуця п. н. „Да Сонца!“ У гэтым нумары „Шляху Моладзі“ зьмешчаны ўвесь матарыял з № 4 (77) і замест сканфіскаванага, даём новы артыкул Сасны п. н. „Больш стойкасьці і веры!“

---

Sasna

## Bolš stojkaści i viery!

Čytajučy biełaruskuju presu, časta daviedvajemsia ab faktach, katoryja žacham prajmajuć dušu Biełarusa, a asabliva dušu Biełarusa intelihienta. Čužyncy nikoli jašče nie zrazumieli i nie zrazumiejuć nas i našych patreb.

Kab-ža mahli my žyć i abaranicca ad narodnaj śmierci, a tak-ža ŭtrymać toje, čym nas nadzialiła ščodraja natura i što nam pieradali našy pradziedy, my, siańniašniaje pakaleńnie, pavinny pierad usim źviarnuć uvahu na ŭzhadavańnie moładzi, bo moładź — siła. Siłaj moładzi jość niaŭstuplivaść, jość advaha ŭ zakładańni sabie metaŭ i advaha viery ŭ ich ździejśnieńnie. Narod, katory maje tak vyhadavanuju moładź, moža śmieła hlanuć u vočy svajmu vorahu i peŭnym być pieramohi ŭ baraćbie za svaje ideały.

Balučym niaščaściem histaryčnym našaha narodu jość padzieł na dźvie viery: „maskoŭskuju“ i „polskuju“. Pop-maskal u carkvie kaža, što „vy, prychažanie—iścinno-ruskije“, a ksiondz-palak u kaściele—„vy Polacy“, i h. d. A naš Biełarus paskrabie patylicu i skaža, što ksiondz na ambonie nie šta vielmi mudra kazaŭ, bo ničahusieńki nie razumieŭ. Nienarmalnaść heta pavinna źniknuć, jak źnikaje śnieh pad naporam ciopłych kasulaŭ viesnavoha sonca. Biełarus pavinien adčynić vočy i ahledzić sam siabie, razdźmuchać pavinien ačmut. Pavinien viedać, kamu paručaje svajo dzicia, a ŭbačyŭšy kryŭdu—stojka i advažna baranić svaich pravoŭ. Biełarus pavinien daražyć svaju movu, nie pazvolić, kab renehaty (adstupniki) i roznyja prybłudy vyśmiejvali nas i jaje. U śviatyni pavinny my stojka damahacca biełaruskich duchoŭnych, u škołach biełaruskich vučycialoŭ i niaŭtomna pracavać nad uśviedamleńniem svaich ciomnych bratoŭ. Kali-ž hetaha nia budziem rabić, dyk sumnaja čakaje nas budučynia...

Dyk-ža bolš stojkaści i viery!..

Stud. J. M.

# Ab metodach „supracoŭnictva".

Da apošnich amal časoŭ najbolšym pašyralnikam panskaj kultury na našych ziemlach było polskaje katalickaje duchavienstva. Ksiandzy zakładali tut SMP, ksiandzy adhavaryvali čytać biełaruskija hazety i nikoli (apračа niekatorych ksiandzoŭ-biełarusaŭ) nia ŭžyvali biełaruskaj movy ŭ kaściele. Daviało heta da taho, što šmat biełarusaŭ katalikoŭ adchiliłasia ad „polskaj viery", a pavaha duchavienstva padupała.

Heta zmusiła polskich dziejačoŭ, a pierad usim asadnikaŭ, šukać novych daroh i novaha padchodu da Biełarusaŭ; tym bolš, što ŭ ihru tut uchodziać i Biełarusy pravasłaŭnyja. Polskija dziejačy abapiorlisia na vučycielstvie, asadnikach i aśviecie pazaškolnaj. Tamu kožny vučyciel tak sałodka prahavarvaje da biełaruskaj moładzi, aby tolki załažyć niejkaje „kułka". Što ad hetaha cierpić navuka ŭ škole — heta nikoha, zdajecca, nia cikavić.

Asadniki, na čale z dobrym pankom pasłom Kaminskim, na słavach ničoha biełaruskaha nie praśledujuć i byccam choćuć „supracoŭničać" z biełarusami. Žyćcio adnak pakazyvaje što inšaje. Voś sioleta ŭ zimovych miesiacach adbyvalisia ŭ Vilni kursy „aśvietna-kulturnych" pavadyroŭ, arhanizavanyja asadnikami. I kali adzin z kursantaŭ napisaŭ u „Bieł. Krynicy", što ich na kursach choćuć „napchnuć polščynaj", to kiraŭnictva kursaŭ paddało hetu spravu pad ahulny sud kursu. Chaciełasia, vidać, ukarać „vinoŭnaha", ale našłosia na kursie mnoha śviedamych i bajavych biełarusaŭ i „vinoŭnaha" abaranili.

Na hetych kursach nia było nivodnaha vučyciela biełarusa i nivodnaj lekcyi ab biełaruskaj kultury, a ŭsio „supracoŭnictva" jšło papolsku, vysoka padnosiačy dasiahnieńni Varšavy. A ŭ kancy kursu hetyja samyja pany pišuć u hazetach, što „na zakończenie odtańczono Lawonichę, ludovy taniec Wileńszczyzny i odśpiewano „Ci świet ci świtaje"... harmonijną pieśń ludu Wileńszczyzny". Hetym panom praz horła nie prachodzić „*białoruska* pieśń, *białoruski* taniec narodowy"! Toje, što pad śvistam bizunoŭ pryhaniatych stvaryli našy dziady i pradziedy, toje, što siahońnia ciešyć dušu i serca kožnaha Biełarusa, jak šyrokaja jość biełaruskaja ziamla, — asadnickija pisaki i ichnyja padhałoski jašče siahońnia ŭzdryhajucca nazvać praŭdzivym imiem biełaruskim. I heta maje nazyvacca „supracoŭnictvam". Kožny kulturny čałaviek zapratestuje suproć hetkaj metody „supracoŭnictva" tak, jak pratestavali ŭ svaim časie suproć nazvańnia Polščy „Pryviślenskim krajem".

Ale heta jość taki ciapier kirunak — pisać „o ludach Nowogródczyzny, Wileńszczyzny", ale nie ab Biełarusach i ich žyćci. Napr. niadaŭna vyjšła knižka p. t. „Kufry chłopskie na

Wileńszczyźnie“, u jakoj aŭtor, apisyvajučy našyja biełaruskija kufry, biasstydna ŭciakaje ad słova „białoruskie“.

Što da aśviety pazaškolnaj, to polskija asadniki tut užo chočuć skončyć z roznymi „kursami“, a dumajuć zakładać t. zv. narodnyja — ludowe — universytety, na jakich taksama buduć baić ad „A“ da „Z“ papolsku i ŭ kancy na adčepnaha štoś dadaduć „regjonalnego ludu wileńskiego“, ale barani Boža — „białoruskiego“.

Darahaja moładź! Razvaž heta i zrazumiej! My jošć častkaj vialikaha Biełaruskaha narodu i jak takija tolki možam z druhimi narodami ŭ bolšaj ci mienšaj miery supracoŭničać. My pierastali być etnohrafičnaj masaj, inakš kažučy — stadaj baranoŭ, jakim usioroŭna, kudy ich zapišuć, abo ŭ jaki katuch zahoniać. A kali my Biełarusy, to našym abaviazkam jošć usiudy i zaŭsiody našy narodnyja pravy adstaivać, baranić i pašyrać.

---

## БЕЛАРУС.

Кім ты зьвешся?
— Беларусам.
Як жывеш ты?
— . . . . . . .
Што цярпіш ты?
— Гнёт нядолі.
Чаго хочаш?
—Жыцьця—волі...

Чым ты здатны?
— Працай ўдалай.
Чым ты горды?
—Прошлай славай.
Чым ты весел?
—Сваім горам.
Чым багаты?
—Хлебам-мёдам...

Чым ты крэпак?
—Словам жывым.
Чым адметны?
—Сэрцам шчырым.
Што кахаеш?
— Край свой мілы.
І ў што верыш?
—Ў свае сілы!..

А. Мілюць.

## НАД НЁМНАМ.

Над Нёмнам ціхім, шырокім,
Драмалі палеткі, лясы
У спакою вялікім, глыбокім
Шапталі кругом каласы.

Пшаніца хінулась да жыта,
Гарох абымаўся з аўсом.
Ячмэнь пхаўся ўверх прагавіта
І грэчка цьвіла тут кругом.

Чабор гаманіў із румянкай,
Шаптаў асацэ штось чарот.
Закрыўшысь зялёнай фіранкай
Сьпяваў недзе жаб карагод.

Адно на вярху, у паветры,
Царыла кругом цішыня.
І шум нейкі чуўся у ветры,
Як злобны прыпеў вараньня.

Здавалась, што звоняць дзесь путы
Жалобнай вялікай тугі,
Ці страшная песьня пакуты
Аб тым, як цяжкі ланцугі.

І хтож-бы тут быў у няволі?
Як тут красата і прастор,
Як тут па лугох і па полі
Багацтва і песьня і хор?

— — — — — — — — — —

То плачыць бяздольна краіна,
Лье горкія сьлёзы свае
Над доляю блуднага сына,
Каторы адрокся яе!

Уладзімер Бернякович.

* * *

Радзімая песьня, радзімыя гукі,
Чаму вас так моцна, бязьмежна люблю?
Чаму сваім сумным, жальлівым напевам
Хвалюеце гэтак вы душу маю?

Як толькі вас чую — я моцны раблюся,
У грудзёх маіх сэрца ў запале дрыжыць
І думкай крылатай тады я нясуся
Над краем, што звыкся з нядоляй век жыць.

У той час мне ня страшны варожыя сілы,
Я стаў-бы адважна ў змаганьне са злом,
І з песьняй радзімай, чароўнай і мілай
Я нішчыў-бы гора і крыўды кругом.

Нясіся-ж, радзімая песьня, над краем,
Будзі свой працоўны і змучаны люд,
Улівай сваім чарам ўсім сіл да змаганьня,
Каб згінулі ўрэшце сьляды ўсіх пакут.

Каб ў вольнай краіне здабытай ахвярай
Увесь люд запяяў, што загінуў прымус
І родная песьня нясласся-б ў сьвет хваляй
І чулі-б усе, што жыве Беларус!..

**С. Гаротны.**

* * *

Чаго вецер плачаш, чаго ты галосіш, —
Няўжо ж у людзей спачуцьця сабе просіш?
А мо' ты над нашай сумуеш нядоляй?
А мо' не падумаў аб тым анікалі...

Ня знаю пра гэта, нічога ня знаю, —
Адно сьпеў твой сумны балюча кахаю:
Здаецца, маю ты тугу падхапіў
І гукам магутным яе ускрыліў.

Вядома, з табой не аднэй мы стыхіі,
Я—сьведамасьць маю, ты — славішся сілай,
Усё-ж і супольнае нештачка маем:
Прадвечную Волю абодва спаўняем. —

Яна, знаць, казала аднаму тужыці,
Другому-ж — па сьвеце аб гэтым трубіці.
Як плакаў спрадвеку, дык плач да зьнямог
Над сумным жыцьцём, што чалавеку даў Бог.

**В. Катовіч.**

M. Karalenka.

# Baraniema pryrodu!

Kaliś, vielmi daŭno, žychary Eŭropy žyli tak, jak siańnia žyvuć dzikija ludzi Aŭstralii. Ciažkaje heta było žyćcio. U nieprabytych lasoch cikalisia na čałavieka strašnyja źviary, ciapier viedamyja tolki z znojdzienych škialetaŭ. Ad hromaŭ i piarunoŭ čałaviek chavaŭsia... ŭ travu, ad pavodki — ŭzłaziŭ na vysokija drevy, a ad źviaroŭ chavaŭsia ŭ piačurach.

Jak-ža słaboj istotaj byŭ tady čałaviek! I kolki natuhaŭ musiŭ paniaści jon u ciažkaj baraćbie z niaviedamymi jamu siłami pryrody i svaimi zababonami!

Dziakujučy adnak duchovym zdolnaściam, čałaviek štoraz bolš pieramahać staŭ pryrodu, źjeździŭ i daśledziŭ badaj usiu ziamlu i ŭsie vody, paznaŭ tajomnaje žyćcio ŭ hłybiniach mora i akijanaŭ, zdabyŭ niedastupnyja ziemli (polusy), uździorsia na najvyššyja hory, paznaŭ vyšyni pavietra (stratasferu), prakapaŭ na paru kilometraŭ ŭhłybki ziamlu, pakryŭ jaje sietkaj čyhunki, paviazaŭ telehrafičnymi i telefoničnymi dratami, pływaje pad vadoju, lataje na aeraplanach u pavietry, vykarystaŭ siły vady, vietru, elektryki, a fali eteru pieranosiać jahony hołas u najdalejšyja čaści ziamli. Heta biazumoŭna šmat, ale kaniec jašče daloka.

Ale razam z „mechanizavańniem“ śvietu paŭstaje ŭ sercy čałavieka jakiś žal za tym, što źniščyŭ i čaho ŭžo nia zmoža papravić, paŭstajuć uspaminy dalokich, dalokich viakoŭ. Hetyja sumnyja ŭspaminy vyklikaje ŭ nas časam jakajaś adzinokaja sasna ŭ poli, vializarny kamień — śviedka ladovaj pary, jakiś kutok lesu, zabytyja ludźmi inšyja śviedki staroj minuŭščyny. Tady čałaviek razumieje, što pryrodu treba kachać, jak krynicu, katoraja daje šmat duchovych skarbaŭ, uražańniaŭ i roskašy, — tym bolš, na kolki heta pryroda jość bolš pieršabytnaj, dalšaj ad supolnaści z novačasnaj cyvilizacyjaj čałaviectva.

I voś, u radzie apostałaŭ roznych idejaŭ znajšlisia apostały idei abarony pryrody, zachavańnia astatkaŭ pieršabytnaj pryrody ŭ stanie mahčyma niakranutym. Usie astatki pryrody — miortvaj i žyvoj, kali im hrazić źniščeńnie, — zasłuhoŭvajuć na abaronu.

Jak bačym, pryčyny (matyvy) acharony pryrody čysta idejnyja; padzialić možna ich na čatyry hałoŭnyja hrupy: histaryčnuju, estetyčnuju, navukovuju i vychavaŭčuju.

Matyŭ histaryčny — heta acharona astatkaŭ pryrody, katoryja majuć supolnaść z niejkimi histaryčnymi zdareńniami abo asobami.

Matyŭ estetyčny kaža zachovyvać pryhožyja i charakternyja aznaki krajabrazu, katoryja vyraźniajuć jaho ad abrazoŭ krajoŭ inšych. A ci-ž moža dla nas być pryhažejšy kraj-

abraz, jak krajabraz biełaruski, katory z hetkaj lubaściu i ŭmieńniem admalavaŭ naš narodny paet Jakub Kołas u svajej niaŭmiruščaj „Novaj Ziamli“, dzie kaža:

„Moj rodny kut, jak ty mnie miły!
Žabyć ciabie nia maju siły!
Nia raz utomleny darohaj,
Žyćciom viasny majej ubohaj,
K tabie ja ŭ dumkach zalataju
I tam dušoju spačyvaju.
. . . . . . . . . . . . . .
Voś jak ciapier pierada mnoju
Ŭstaje kutočak toj pryhoža.
Kryničk vuzieńkaje łoža
I jołka ŭ paru z chvainoju,
. . . . . . . . . . . . . .
I baču les ja kala chaty...
. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .
Choć ja niavolaj ciažka zmučan
I z rodnym bieraham razłučan,
Dy ja dušoju ažyvaju,
Jak vokam myśli aziraju
Ciabie, moj łuh i bierah rodny,
Dzie ljecca Nioman srebnavodny
Dzie duby družnaj čaradoju
Stajać, jak viežy, nad vadoju
Daŭniejšych spraŭ vartaŭnikami
I ziziajuć hrozna tarałami.
. . . . . . . . . . . . . .
Tut tak prachładna, tak pryvolna!
A ptuški hołasna i zdolna
Śmiajucca miłym ščabiatańniem
I poŭniać łuh svaim piajańniem.

Siudy tak-ža zaličajucca asablivaści etnohrafičnyja, jak budaŭnictva i ŭpryhožvańnie roznych pradmietaŭ, dalej — vopratka, zvyčai, abyčai i h. d.

Matyŭ n a v u k o v y acharony pryrody starajecca z adnej starany zachavać zabytki źjaviščaŭ admiennych, katoryja, ŭžo zhinuli, pakinuŭšy vielmi redkija astačy z haliny gieologji zeologji i botaniki — a z druhoj starany choča vydzielić poŭnyja abšary (rezervaty) ludzkoj haspadarki, dzie haspadaravała-b tolki samaja pryroda i dzie navukoŭcy mahli-b viaści doślеdy nad žyćciom raślinnaha i žviarynnaha śvietu ŭ jaho pieršabytnych prajavach.

Matyŭ v y c h a v a ŭ č y vuča nas ścierahčy astačy pieršabytnaj pryrodv, jak najlepšaj vučycielki nia tolki svaich tajnic, ale i ciažkaj štuki žyćcia, bo nihdzie čałaviek nie nabiare stolki žyćciovaj mudraści, jak z spaściarohaŭ pryrody. (d.b.)

## З В О Н.

Бом! Бом! Зьвініць працяжна звон,
Нясецца гук з усіх старон,
І рэха коціцца кругом,
Дзе толькі ўсё спавіта сном.

Бом! Бом! Мацней ён загрымеў,
Каб люд бязцольны зразумеў,
Каб вочы ў гору прыпадняў
І зорку шчасьця прывітаў.

Устань! Устань-жа ты, Крывіч,
На ўсемагутны гэты кліч,
Пакінь адвечны рабскі сон,
Пакуль ня змоўк будзіцель-звон.

**Коля Гараўнік.**

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**ПАМЁР УЛ. ЖЫЛКА.** 23-га красавіка сёлета, перад зданьнем набору № 4 „Шляху Моладзі“ на машыну да друку, атрымалі мы ад аднаго з беларускіх дзеячоў у Латвіі вестку, што ў БССР памёр з сухотаў ведамы беларускі паэт Уладзімір Жылка. Шырэй аб сьветлай асобе нябожчыка напішам у наступным нумары.

**Суд.** 28.XI.34 г. Віл. Гарадзкі Суд засудзіў рэдактара „Бел. Крыніцы“ грам. Я. Пазьняка за зьмяшчэньне ў № 28 за 1934 г. „Бел. Крыніцы“ артыкулу „Ніякі саюзьнік“ на 80 зал. штрафу і на 2 тыдні арышту, устрымліваючы выкананьне апошняга прысуду на 3 гады. Рэд. Я. Пазьняк ад гэтага прысуду падаў апэляцыю, якую разглядаў Акружны Суд 28-га сакавіка сёлета і прысуд Гарадзкога Суду зацьвердзіў.

**Новыя гурткі Б. І. Г. і К.** Нядаўна заснаваліся новыя гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў в. Лядкі, Стаўпецкага пав., і ў в. Навасёлкі, Маладэчанскага пав. Жадаем ім памыснасьці ў легалізацыі.

**„Чырвонае яечка“ і „Спатканьне Юр'я“.** Віленскі Аддзел Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры ладзіць у суботу 4 траўня сёлета ў сваім памешканьні традыцыйнае „Чырвонае яечка“, а 5 траўня, у нядзелю, „Спатканьне Юр'я“, разам з першай маёўкай. Запісы і складкі ўжо прыймаюць сябры ўраду Аддзелу БІГіК.

**Апавяданьні на конкурс „Шляху Моладзі“.** На ладжаны нашай рэдакцыяй конкурс апавяданьняў, абвешчаны ў № 2 „Шл. Мол.“ сёлета, дагэтуль атрыманы 4 апавяданьні. Думаем, што да апошняга тэрміну прысыланьня, г. зн. да 15-га траўня сёл., колькасьць іх павялічыцца, бо-ж не павінна забракаваць ані твораў, ані ахвотнікаў на атрыманьне цэнных прэміяў.

**Беларуская аўдыцыя ў Віленскім Радыё.** 11-га траўня сёлета а гадз. 15 Віленская радыёстанцыя мае надаваць, на ўсе іншыя польскія радыёстанцыі, беларускую аўдыцыю. п. н. „Год у беларускіх песьнях“. У праграму аўдыцыі, якую выканае беларускі хор пад кіраўніцтвам грам. Шырмы і салісты, пры акампаніямэнце ведамага кампазытара праф. Галкоўскага, уваходзяць наступныя песьні:

1) *Купальскія*: а) „Пірад Пятром пятым днём“, б) „Чаму сілязень смуцён невясёл:—у апрацоўцы А. Грэчанінава. 2) *Жніўныя*: а) „Зязьвінела пчолачка“ (солё і раяль) б) „Перапёлка“,—у апрацоўцы А. Грэчанінава, в) „Раёк“, дажынкавая, у апрацоўцы А. Грэчанінава 3. *Валачобныя*: а) „А у лесе, лесе“,

у апрацоўцы А. Нікольскага, б) „Удаль па даліне,“ у апрацоўцы Т. Уладзімірскага, в) „Ходзіць пава па вуліцы,“ у апрацоўцы К. Галкоўскага.

**Успаміны з Саловак.** Ведамы беларускі драматург і мастак Фр. Аляхновіч, каторага ў сваім часе бальшавікі саслалі на Салоўкі, пасьля 7 гадоў пры абмене вязьняў Польшчы з Саветамі быў выменены на б. пасла Бр. Тарашкевіча, напісаў свае ўспаміны з Саловак. Гэтыя ўспаміны дагэтуль друкаваліся ўжо ў польскай мове ў віл. газэце „Słowo“, і ў расейскай мове: у парыжскай газэце „Возрожденіе“ і манджурскім „Вѣстнику“. Апроч таго ў хуткім часе маюць быць яны выданы панямецку і пафранцуску. Грам. Фр. Аляхновіч думае іх выдаць асобнай кніжкай і ў мове беларускай.

**Беларускія Календары на 1936 г.** Даведваемся, што кнігарня „Пагоня“ і грам. грам. Ст. Станкевіч і Ул. Манкевіч ужо прыступілі да падгатоўкі выданьня Беларускага Адрыўнога Календара на 1936 г., а Беларускі Інстытут Гасп. і Культуры — да выданьня „Беларускага Народнага Календара“ — кніжкі. Пры гэтым трэба зазначыць, што беларускія календары на 1935 год усе распраданы, і ў Вільні іх ужо неставала на новы 1935 год.

**БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ. Зачынена Беларускае Выдавецтва ў Латвіі.** Латвійская ўлада выдала загад аб зачыненьні Беларускага Выдавецтва ў Латвіі, якое вёў грам. К. Езавітаў. Ніякае матывоўкі гэтага кроку не пададзена. Беларускае Выдавецтва працавала 10 год, ад 1925 году, і выпусьціла цэлы рад падручнікаў і брашур, а таксама выдавала штомесячнік „Беларуская Школа ў Латвіі.“ Паступак латвійскіх уладаў можна лічыць жаданьнем пазбавіць беларусаў іхняга друкаванага слова, а таксама жаданьнем спыніць выхад беларускіх кніжак у Латвіі. У дзяржаве, якая сама йшчэ гэтак нядаўна была пад уладай расейскага царызму і нямецкіх баронаў, гэткі барбарскі уціск беларусаў зьявіўся зусім нечаканым і непажаданым.

**Адмоўлена далейшая дапамога на Рыскую Беларускую гімназію.** Рыская меставая управа адмовілася ў 1935 г. даць якую-колечы грашовую дапамогу Рыскай Беларускай гімназіі, якая ўтрымліваецца Т-вам Беларускіх Вучыцялёў ужо 6 год. Адначасна адмоўлена дапамога і жыдоўскай гімназіі, якая ўжо і зачынілася ад нястачы сродкаў. Беларускія вучыцялі сваю гімназію яшчэ трымаюць, хаця-ж для гэтага прыйшлося ўсё беларускае настаўніцтва абкласьці асобнымі адлічэньнямі з пэнсіі.


*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

# Usiačyna.

**Pastanova Lihi Narodaŭ.** Na 85 nadzvyčajnaj sesii Lihi Narodaŭ, jakaja adbyłasia ŭ druhoj pałovie krasavika, na prapanovu Francyi Liha Narodaŭ vyniesła pastanovu suproć adnastarońniaha zryvańnia traktataŭ. Pastanova heta śkiravana prociŭ zbrajeńniaŭ Niamieččyny, jakoje mnoha kamu nahaniaje strachu i jakoje pryčyniłasia da francuska-anhlijska-italijanskaha zbližeńnia, asabliva padčyrknut ha na supolnaj kanferencyi kiraŭnikoŭ hetych dziaržaŭ u Stresie (Italija), katoraja adbyłasia pierad sesijaj Lihi Narodaŭ.

Niamieččyna vyniesła prociŭ pastanovy Lihi Narodaŭ pratest. — Čym usio heta končycca pakaža budučynia.

**Novaja kanstytucyja ŭ Polščy** ŭvajšła ŭžo ad 24 IV.35 h. u žyćcio. Adnosna bielarusaŭ jana ničym nia roźnica ad staroj, a ahułam daje niabyvałyja pravy dla Prezydenta dziaržavy.

**Jakija jazyki najbolš raspaŭsiudžany ŭ Eŭropie.** Hazety pišuć, što najbolš raspaŭsiudžanymi jazykami ŭ Eŭropie źjaŭlajucca: 1) język niamiecki, jakim havoryć 81 miljon ludziej, 2) rasiejski—z 70 miljonami, 3) anhlijski—z 47 miljonami i 4) francuski, jakim havoryć 40 miljonaŭ asob.

**Źjezd „Związku Młodzieży Wiejskiej“.** 7-ha krasavika sioleta ŭ Vilni adbyŭsia źjezd „Zwiazku Młodzieży Wiejskiej ziemi Wileńskiej“ — na jakim vypłyła mnoha cikavych viestak, ab katorych pastarajemsia apisać u nastupnym numary „Šlachu Moładzi“, bo ŭ hetym nie chvataje nam miesca.

# Паэтам з „цёмнага завулку.”

У № 7 „Роднага Краю“ паявіўся артыкул п. т. „Баявое заданьне“, аўтор каторага, схаваўшыся пад літару Д. піша, што з прычыны палітычнага кірунку „Шляху Моладзі“, ня можа ён згуртаваць каля сябе ўсіх паэтаў Зах. Беларусі, што быццам прапагуе выключна паэзію „Нашаніўскай пары“, ды што адзінай заслугай нашага часапісу ёсьць толькі ўзгадовываньне маладых паэтаў – Мы тут заяўляем, што „Ш.М.” ёсьць часапісам апалітычным і служыць толькі агульнаму дабру беларускай моладзі Апошняй-жа мэтай Ш. М.“, як і кожнага чэснага Беларуса, ёсьць поўная незалежнасьць Беларускага Народу і дзеля гэтага панскія прыслужнікі і чырвоныя западажнікі ніколі ў ім ня знайдуць месца. Што да новых кірункаў „і паэтычных плыньняў“, то ня можна-ж прыраўноўваць мілагучных вершаў Машары з „Шл. Мол.” да такіх вось плыньняў:

„Аўтабусы, места, крык...
...Вуліцы шырокія.
Дзеўкі сінявокія,
Жыды касабокія“ і г. д.

Што іншае, каб верш новага кірунку быў напісаны артыстычна і сапраўдным мастаком.

У канцы аўтору „Баявой задачы“, які, відаць, не адну хвалду прысядзіў, доючы Музу, радзім заняцца вывучэньнем лёгічнага выражаньня на пісьме сваіх „глыбокіх“ думак. Вось тыповы ягоны сказ, узмоцнены per nos auctoritatis (мы):

„Наш поэт і пісьменьнік надалей знаходзіцца ў цёмным завулку, чакаючы „лепшых часоў,“ пішучы з надзеяй „калісь быць надрукаваным“(!)—і што рэд. „Шл. Мол.“ можа зрабіць з плыньняй такога кірунку, напісанай „ў цёмным завулку,“ як ня ўкінуць у кош? Вынятак мог-бы быць толькі для паэта — самародка і пачаткуючага, але не для старых і назойлівых паклоньнікаў Музы, якія так ахвотна сваё нявуцтва і недахоп таленту ўзваліваюць на безбаронае „licentia poetica“ і на „новыя кірункі.“

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

А. Жуку і Я. Прытыцкаму. Календара кніжкі на 1935 год выслаць Вам нажаль не маглі і ня можам, бо ўжо на Новы Год яго ў Вільні не ставала.

З. Каваленку і Марціну Кліну. Вашы вершы слабаватыя і да друку не падходзяць, але радзім Вам пісаць. Папрабуйце пісаць прозай, гэта можа Вам лепш удасца. Больш чытайце бел. кніжак.

Петрашцы Прохару. Просьбу споўнілі, напішыце штось з жыцьця моладзі ў Вашай старонцы. За „Ameryki ŭ kaźni" просім прыслаць 50 гр. далучаным „przekazam razrachunkowym". „Za pobraniem" Вам не высылалі, бо гэта вельмі дорага каштуе.

А. Занку. Просьбу спаўняем і чакаем абяцанага.

Н. Лапушы—скаму. Верш слабы і да друку не падходзе, папрабуйце пісаць прозай. За добрыя словы падзяка.

Хромічу. За мілы верш „Шляху Моладзі" шчырая падзяка, пастараемся яго надрукаваць.

Бр. Даніловічу. Беларус ія газэты ў Амэрыцы ня выходзяць. Просьбу споўнілі, за добрыя пажаданьні падзяка.

Колі Гапоўніку. За прысланыя вершы дзякуем, некаторыя з іх надрукуем. Вершы можаце пісаць, толькі старайцеся іх добра апрацаваць, лепш менш напісаць, але добра, чым многа, але блага. Прытым радзім як найбольш чытаць прыгожае бел. літэратуры. Малады Дубок паходзіць з Вашае стараны.

Albertu Strybućciu. Za prysłanyja matarjały ščyra dziakujem, jak bačycie, pačali ich užo vykarystyvać. Artykuł musili mocna pierarablać z pryčyn cenzuralnych za što vielmi pieraprašajem. U Vašych vieršach słabaja technika, jakuju treba staracca vyrabić, a žmiest i mova dobryja; paru z ich nadrukujem, i prosim pisać čaściej. Dla bližejšaha znajomstva dobra było-b, kab Vy prysłali nam swaju biohrafiju.

Pamima ŭsiaho Vaš artykuł administracyjnyja ŭładu skanfiskavali.

Хролу М. За прысланыя матар'ялы падзяка, будзем старацца іх выкарыстаць.

Čytaču. Vašy karespandencyi u „Šlach Mol." nie padchodziać, pieradajom ich u „Biel. Krynicu". napišycie nam štoś z žyćcia vašaje moładzi.

---

## КУТОК РАЗРЫВАК.

**Разьвязаньне загадкі № 6:**

4 9 2
3 5 7
8 1 6

За разьвязаньне загадкі № 6 нагарода ў форме кніжкі п. н. „Гісторыя беларускай літаратуры" М. Гарэцкага выпала грам. Хролу Манцэвічу.

**Круцігалоўка № 7** — *улаж. Брадан.*



Значэньне слоў:

1) Мераць лякарства
2) Жаночае імя.
3) Замятаюць ім хату.
4) Расьліна з над ракі.
5) Прыбіваюць доскі.
6) Іначай прапаў.
7) Іначай галузіны.
8) Назоў пасеваў.
9) Іначай кут.
10) Жаночае імя.

З літараў, якія будуць на месцы крыжыкаў, трэба адчытаць псэўдонімы двух беларускіх паэтаў.